

# ДОБРЫ ВЕЧАР

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1995
СТУДЗЕНЬ
2
ПАНЯДЗЕЛАК
№ 1 / 929
Цана
60 рублёў


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### ПІСЬМО З ПАДЗЯКАЙ

У адрас Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечаслава Грыба паступіла пісьмо з Беларускага дзіцячага фонду, у якім выказваецца падзяка за праяўленую зацікаўленасць у вырашэнні праблем падрастаючага пакалення, падтрымку і дапамогу ў правядзенні пасяджэння Дзіцячага парламента, які сабраў у Мінску прадстаўнікоў школьных аб'яднанняў, выхаванцаў інтэрнацкіх устаноў, маладых бізнесменаў, юных спартсменаў і артыстаў.

У пісьме, у прыватнасці, гаворыцца, што сустрэча з дэпутатамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «стала для дэлегатаў з розных куткоў Беларусі вельмі значнай падзеяй, уражанне ад якой застанецца надоўга. Школьнікі змаглі выказацца па набалелых праблемах, абмеркаваць хвалюючыя іх равеснікаў пытанні».

Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

### *КРУГ ФИРМ — ИМПОРТЕРОВ НЕФТИ ЗНАЧИТЕЛЬНО УЖЕ*

Выступая перед сотрудниками Белорусской политехнической академии, Президент Беларуси А.Лукашенко, касаясь вопроса обеспечения страны энергоносителями, заявил:

«...За всем этим стоят 150 фирм, которые наживали громадные деньги на импорте нефти Беларуси. Я решил: пусть будет 4 таких фирмы...»

Алесь ВЕТЕР.

### 12 ЛУЧШИХ СТУДЕНТОВ

Удачным эпиграфом к конкурсу на лучшего студента технического вуза республики могла бы стать небезызвестная история, рассказанная Ф.М.Достоевским, о том, как молодой человек, впервые увидев карту звездного неба, уверенно делает в ней свои исправления. Но лучшие молодые умы Беларуси накануне новогоднего праздника все же поучали наши фирмы, рассуждали об азах компьютерного бизнеса, давали советы, как можно продать персональный компьютер за 5 тысяч долларов и стать в одночасье легальным миллионером.

— Не бойтесь предлагать вашу продукцию по немыслимой цене, — заметил в своем сочинении один из победителей конкурса Евгений Карасик, — помните, что в городе так много богатых простаков, готовых выложить свои денежки первому встречному.

Если же говорить серьезно, то и о борьбе с инфляцией, и о разумной налоговой политике, и о внешней торговле Беларуси — обо всем у отечественных елисеевых и ломоносовых есть свои собственные суждения. Их мнения, оказывается, далеко не всегда совпадают с тем, что принято и одобрено властью, и с тем, что бытует в обществе.

Двенадцать победителей конкурса награждены на год стипендией в размере 20 долларов ежемесячно, а три лидера в дополнение к ней получили свидетельства на покупку со скидкой экологически чистых компьютеров «ACER» и другой техники, которую предлагает фирма «БелКомДата», организатор и спонсор конкурса.

Елена КУКАРЕКО.

### ВІЗІТ БУДЗЕ, А ПРЫЁМ...

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛІНФАРМа ў Беларускім фондзе Сароса, 11 студзеня 1995 года чакаецца візіт у Мінск Джорджа Сароса — вядомага філантропа і бізнесмена, заснавальніка сістэмы фондаў Сароса ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Візіт будзе звязаны з падвядзеннем вынікаў работы БФС за мінулы год, у прыватнасці, азнаямленнем з дзейнасцю новай арганізацыйнай структуры фонду, бюджэтам на наступны год. Не выключана, што адбудзецца сустрэча Д.Сароса з прэзідэнтам Беларусі. Як вядома, у час апошняга знаходжання амерыканскага мецэната ў Беларусі ў маі адыходзячага года В.Кебіч, які быў тады Старшынёй Савета Міністраў, адмовіўся ад сустрэчы з ім.

Ларыса КЛЮЧНІКАВА.

### МІНСК У БОНА — У ВУЧНЯХ

З поспехам прайшоў у Боне семінар, арганізаваны гарадскім магістратам і Акадэміяй кіравання пры Кабінеце міністраў Беларусі на базе інстытута Густаў Штрэземан. У семінары прынялі ўдзел адказныя работнікі адміністрацыі Прэзідэнта нашай рэспублікі, а таксама Кабінета міністраў, міністэрстваў фінансаў, эканомікі, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, Мінгарвыканкама і абласных Саветаў народных дэпутатаў.

Беларускія спецыялісты азнаёміліся з дзяржаўным ладам Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, гарадскімі (камунальнымі) канстытуцыямі ў нямецкіх федэральных землях, асновамі функцыі кіравання, прынцыпамі рэгіянальнага планавання і выкарыстання тэрыторыі, гарадской сістэмай кіравання фінансамі, сустрэліся з бургамістрам Бона Отта Кранезем, прынялі ўдзел у дыскусіі аб рэформах у грамадскім кіраванні і гутарцы з дэпутатамі Бундэстага аб сувязях паміж Беларуссю і Германіяй.

Падчас знаходжання беларускай дэлегацыі ў Боне адбылося адкрыццё выставы маладых мінскіх мастакоў, якія прадставілі на суд бонскіх жыхароў 80 сваіх твораў. У вернісажы прынялі ўдзел прадстаўнікі магістрата Бона і супрацоўнікі Пасольства Рэспублікі Беларусь у Германіі. Грошы, атрыманыя ад продажу беларускіх карцін і сувеніраў, будуць выкарыстаны для закупкі медыкаментаў і накіраваны ў 2-ю дзіцячую бальніцу г.Мінска.

Ірына САЗАНОВІЧ.

### ☐ КОРОТКО

**В предновогодние дни детский дом № 3 по улице Рафиева, 30 посетил председатель Мингорсовета А.Герасименко. Он вручил детям подарки и сладости, ознакомился с условиями жизни воспитанников детского дома, беседовал с медиками и педагогами, которые работают с этими обездоленными детьми. Воспитанники детского дома во время торжественной встречи провели рождественский концерт, подготовленный их собственными силами.**

***

В соответствии с решением Мингорисполкома продажа спиртных напитков в торговых предприятиях городского управления торговли впредь будет производиться с 8 до 21 часа. Круглосуточную торговлю спиртным будет вести закрытое акционерное общество «Юбилейный» и арендное предприятие «Брест».

***

**Новым президентом Белорусской федерации мотоспорта и веломотокросса конференция этой организации избрала Льва Вороновича. Известный в прошлом мотоспортсмен Л.Воронович, имеющий 25-летний спортивный стаж, неоднократно был чемпионом СССР, победителем международных соревнований.**

***

В целях защиты потребительского рынка г.Минска принято решение: исходя из имеющихся ресурсов, с 1 января 1995 г. отпускать масло животное по карточкам из расчета 300 граммов в месяц на одного человека.

Временно, до изготовления карточек, отпуск масла животного в течение января будет осуществляться по предъявлении паспорта в магазинах по месту закрепления в 1994 г.

Выдача карточек на 1995 г. будет производиться в ЖЭС по месту жительства.

***

**Совместный проект «Образование структуры консультантов в предпринимательском обществе Республики Беларусь» создан недавно Союзом предпринимателей Республики Беларусь и немецким банком компенсации («Аусгляйхбанк»). Задача данного проекта — внести вклад в развитие частных и средних промыслов, а также помочь государственным предприятиям в оздоровлении экономики и приватизации.**

**В процессе осуществления проекта будут обучены 20 консультантов по вопросам создания средств существования предприятий и 20 консультантов фирм по менеджменту, которым предстоит работать на предприятиях Беларуси. Требования, предъявляемые к профессиональным и личным качествам будущих консультантов, очень высоки: высшее экономическое либо юридическое образование или многолетняя практика на предприятиях, знание иностранного языка.**

**Осуществление проекта предполагается начать в 1995 году.**

***

Министерство внутренних дел и Министерство юстиции не согласились с проектом постановления Кабинета министров Республики Беларусь «Об охране банков Республики Беларусь», где, в частности, разрешалось приобретение огнестрельного оружия для штатных сотрудников охраны банков и независимых служб охраны.

Министерства высказались против создания ведомственной охраны банков до тех пор, пока в стране не будет для этого выработана необходимая правовая база. Кроме того, МВД Беларуси ссылается на ситуацию в России, где разбойные нападения на банки в большинстве своем совершались по предварительному сговору с охранниками.

В Беларуси с 1973 года охрана банков осуществляется объединением «Охрана», куда входят наиболее подготовленные и опытные сотрудники органов внутренних дел. На более чем 400 объектах Национального и коммерческих банков несут службу 2500 сотрудников специализированного подразделения.

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в коммерческих банках на 2 января 1995 г.

| Наименование банка | Доллар США покупка | Доллар США продажа | Немецкая марка покупка | Немецкая марка продажа | Российский рубль покупка | Российский рубль продажа |
|---|---|---|---|---|---|---|
| КОМПЛЕКС | 10080* | 10400 | 6384* | 6593 | 2.51 | 2.77 |
| БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 9500* | 10300 | 6020* | 6525 | 2.3 | 2.9 |
| БЕЛАРУСБАНК | не работают с валютой | | | | | --- |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл. оп. упр.) | 10100 | 10600 | 6300 | 6700 | 2.4 | 2.9 |
| НАРОДНЫЙ БАНК | 9800* | 10400 | 6220* | 6630 | 2.4 | 2.7 |
| ПРОФБАНК | информация на 9.50 не получена | | | | | |
| СБЕРБАНК | 10100 | 10600 | 6300 | 6600 | 2.5 | 2.7 |
| ОЛИМП | 9960<br>10259** | 10290<br>10650** | 6304<br>6493** | 6554<br>6783** | 2.58<br>2.76 | 2.7<br>2.92** |
| ДУКАТ | 10100* | 10400 | 6400* | 6700 | 2.4 | 3.0 |
| финансовая компания СОЛИД | 10000 | 10400 | 6100 | 6500 | 2.5 | 2.65 |
| МИЛАВИЦА филиал АКБ ДУКАТ | 10000 | 10550 | 6200 | 6500 | 2.3 | 2.8 |
| "ИНТЕРКОНТИНЕНТАЛЬ-СКВ" | информация на 9.50 не получена | | | | | |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор.дир.) | 10000 | 10500 | 6300 | 6650 | 2.6 | 2.9 |
| ВЕЛЕС филиал АКБ ДУКАТ | не работают с валютой | | | | | |
| ПОИСК | информация на 9.50 не получена | | | | | |
| Филиал N 1 банка "ОЛИМП" | 10000<br>10100** | 10400* | 6300<br>6363** | 6500* | ... | ... |
| ЕВРОПЕЙСКИЙ | 9700<br>10250** | 10400<br>10600** | 6000<br>6500** | 6600<br>6700** | 2.4<br>2.65** | 2.8<br>2.92** |
| СОТРУДНИЧЕСТВО (отд.БББ) | не работают с валютой | | | | | |
| БЕЛБАЛТИЯ | 9850 | 10250 | 6200 | 6450 | 2.4 | 2.55 |
| БЕЛИНВЕСТБАНК | 9900 | 10400 | 6000 | 6500 | 2.3 | 2.8 |
| МАГНАТБАНК, ф-л 001 | не работают с валютой | | | | | |
| ГУБИСС-РЕСУРС (за рос.руб.) | 9800 | 10400 | 6000 | 6600 | 2.5 | 2.85 |
| НАЦИОНАЛЬНЫЙ БАНК (официальный курс для б/н расчетов) | 10600.00 | | 6716.09 | | 2.92 | |

■ * -- возможна операция за наличный и безналичный расчет

■ В течение дня курсы могут меняться, курсы головного управления банков могут несущественно отличаться от курсов, установленных в обменных пунктах.

■ Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Грецова".

## НАПЕРАДЗЕ — ПЕРАРЭГІСТРАЦЫЯ

Змяненні ў заканадаўстве, відаць, моцна ўзрушылі грамадскія арганізацыі рэспублікі. Як паведаміў на праведзеным 21 снежня ў сталічным Доме літаратара «круглым стале» начальнік упраўлення грамадскіх аб'яднанняў Міністэрства юстыцыі Міхаіл Сухінін, большасць з іх да 1 красавіка 1995 года павінна перарэгістравацца. А паколькі неабходныя для гэтай працэдуры дакументы трэба здаць у міністэрства хоць бы за месяц, то, відаць, хваля сходаў, з'ездаў і іншых форумаў захлісне рэспубліку ўжо з самага пачатку будучага года. Дарэчы, на сённяшні дзень у міністэрстве зарэгістравана 777 грамадскіх аб'яднанняў, з іх 29 — партый.

Што ж прымусіла Мінюст ісці на такія меры? Паводле паведамлення Міхаіла Сухініна, новае заканадаўства, напрыклад, не прадугледжвае такога паняцця, як калектыўны член.

Гэта значыць, што ні дзяржпрадпрыемству, ні якой-небудзь камерцыйнай структуры ўступіць у тую або іншую арганізацыю нельга. Акрамя таго адпадае і заканадаўчая ініцыятыва грамадскіх арганізацый. Праўда, калі такая налічвае 50 тысяч членаў, то яна мае права падрыхтаваць які-небудзь законапраект і прадставіць яго на разгляд у Вярхоўны Савет. Многім грамадскім аб'яднанням, статутам якіх прадугледжваецца грамадска-палітычная дзейнасць, прыйдзецца выбіраць: або грамадская, або палітычная. Некаторым прыйдзецца змяніць і назвы. Па новаму заканадаўству, нельга выкарыстоўваць у назвах словы «Беларусь» і «Рэспубліка Беларусь».

Новае заканадаўства прадугледжвае магчымасць грамадскім аб'яднанням ствараць гасразліковыя арганізацыі. Атрымаўшы ліцэнзію на які-небудзь від дзейнасці, яны такім чынам змогуць зарабляць на жыццё.

БЕЛІНФАРМ.

## КАНИКУЛЫ, КАНИКУЛЫ



В минском Дворце спорта в эти дни проходит новогодняя цирковая программа под названием «Рождество». В ней принимают участие артисты из московских коллективов — цирка «Блеск льда» и Цирка на Цветном бульваре. Красочное представление поставлено по библейским мотивам. В дни школьных каникул программу «Рождество» сменит спектакль для детворы «Цирк и лед на Новый год».

Фото Виктора ТОЛОЧКО, БЕЛИНФОРМ.

## ПЛАНЫ ММАЦ

Мостам узаемаразумення для людзей розных нацыянальнасцей, веравызнання, узросту і жыццёвага вопыту становіцца Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр (ММАЦ).

— Памятаючы аб нашай сумеснай гісторыі і аб доўгім перыядзе халоднай вайны, мы бачым сваю задачу ў тым, каб наладжваць цесныя чалавечыя кантакты паміж Усходняй і Заходняй Еўропай, — сказаў на сустрэчы з журналістамі судырэктар ММАЦ з нямецкага боку Петэр Юнге-Вентруп. — Перспектыву нашай дзейнасці можна вызначыць паняццем «грамадзянскае грамадства».

Пачынаючы з верасня 1994 года, калі адкрыўся ММАЦ, тут штомесячна праводзіцца не менш за дзесяць мерапрыемстваў па пытаннях палітыкі, эканомікі, права. Але асабліва адказна супрацоўнікі цэнтра падышлі да распрацоўкі праграмы на наступны год, з якой і пазнаёмілі журналістаў. Так, сектар «Палітыка, гісторыя, філасофія», які ўзначальвае доктар Анатоль Міхайлаў — судырэктар ММАЦ з беларускага боку, прапануе курсы і семінары па такіх актуальных праблемах, як «Перспектывы еўрапейскага інтэграцыйнага працэсу паміж Усходам і Захадам» з азнаямленчай паездкай у Бон і Брусель, «Арганізацыя кіравання і парламенцкая практыка», «Камунальнае самакіраванне» і іншыя.

Даследаванне сацыяльна-педагагічнай сітуацыі ў Беларусі, стварэнне сеткі міжнародных кантактаў паміж установамі адукацыі і культуры розных краін, арганізацыя групы экспертаў «Праблемы адукацыі і сацыяльнай палітыкі» — такія асноўныя напрамкі ў рабоце сектара «Педагогіка і грамадства». А эколагі, аб'яднаныя сектарам «Ахова навакольнага асяроддзя», ствараюць групу экспертаў па аднаўляемых крыніцах энергіі і энергазберажэнню, займуцца ўкараненнем новых экалагічна чыстых тэхналогій у Беларусі, правядуць шэраг канферэнцый па чарнобыльскай праблематыцы.

Сектары «Маладзёжныя сустрэчы» і «Культура» распрацавалі мерапрыемствы, асабліва цікавыя для студэнцтва і творчай інтэлігенцыі. Тут і міжнародныя лагеры для моладзі, і праграмы «Майстэрскі клас», і канферэнцыя «Урокі гісторыі».

Характэрна, што ўся работа ММАЦ вядзецца з абавязковым пакрыццём расходаў за кошт уласных даходаў Цэнтра. Асноўнымі рабочымі мовамі тут, разам з рускай, з'яўляюцца нямецкая і англійская, а некаторыя супрацоўнікі ММАЦ гавораць таксама на італьянскай, французскай, іспанскай і польскай мовах. Гэта акалічнасць асабліва важная, бо большую частку мерапрыемстваў цэнтр праводзіць у форме дыялога прадстаўнікоў розных краін і культур.

Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛІНФАРМ.

## ГАЗЕТА — ЧЫТАЧАМ

### У ПАДАРУНАК — ЦЭЛЫ ГОД!

*Зразумела, гэта жарт. І тым не менш... Разгарніце наш першы ў 1995 годзе нумар «Добрага вечара», і Вы ўбачыце навагодні падарунак чытачам — «Каляндар памятных дат».*

*Ад мноства розных календароў ён адрозніваецца, у першую чаргу, тым, што кожны мае магчымасць запоўніць яго асабіста. Упішыце ў каляндар дні нараджэнняў Вашых родных, сяброў і калег, даты сямейных святаў і знамянальных падзей, усё тое, што трэба не забыць...*

*Застаецца толькі размясціць гэты «Каляндар памятных дат» там, дзе часцей за ўсё ён будзе трапляць Вам на вочы.*

## ПОСТАВЛЕНО УСЛОВИЕ — ИЗВИНИТЬСЯ

Президент Республики Беларусь А.Лукашенко на встрече с представителями студенчества и молодежных организаций прокомментировал недавнее сообщение службы новостей «Останкино» о том, что Беларусь продала США имевшийся у нее ракетный комплекс российского производства С-300 ПМУ. Он, в частности, заявил, что на базе Минского ракетного училища, действительно, находится такой комплекс, но поскольку он не состоит на вооружении белорусской армии и, по свидетельству российских специалистов, не является секретным, республика готова реализовать отдельные его элементы за рубеж. Причем, эта сделка, подчеркнул президент, может принести нашей стране не 6 млн. долларов, как отмечалось в прессе, а «поприличнее». «Однако этот комплекс никогда не был в США и не будет, — заявил А.Лукашенко, — это бред, очередная цепочка после доклада БНФовцев».

Президент выразил возмущение поведением службы новостей «Останкино», исказившей факты и представившей его «злодеем», и сообщил, что в данный момент в одном из минских аэропортов находится такой же комплекс, следовавший транзитом через нашу страну из России в Западную Европу. По словам А.Лукашенко, он распорядился не выпускать этот комплекс из республики до тех пор, пока российская сторона «не заплатит нам за него двойную сумму и официально не извинится в средствах массовой информации».

Александр ПАТУТИН, РИД.

АНОНС

## НОВЫ ГОД ЗАПРАШАЕ Ў КАРАГОД

Георгій ЗАГАРОДНІ.

На пачатку кожнага новага года следам за каталіцкімі прыходзяць праваслаўныя каляды, а разам з імі — вясёлыя школьныя канікулы. У палацах культуры, школьных залах запальваюцца featured разнакаляровыя агні прыгожа прыбраных ёлак, вакол якіх весяліцца шумная бесклапотная дзятва.

Сёлета з 2 па 7 студзеня і ў памяшканні рэспубліканскай філармоніі пройдуць вялікія навагоднія прадстаўленні для школьнікаў Мінска, падрыхтаваныя творчым аб'яднаннем «Эстрада» Саюза музычных дзеячаў Беларусі. У гутарцы з дырэктарам аб'яднання П.Кандрацюком я пацікавіўся зместам гэтага прадстаўлення.

— Яно мае казачны сюжэт, — сказаў ён, — і па сваёй унутранай драматургіі вельмі нагадвае дзіцячы музычны спектакль пад назвай «Каляды-калядачкі, казкі-ладачкі». Аўтар сцэнарыя і рэжысёр-пастаноўшчык Вячаслаў Панін пабудаваў яго на аснове беларускага фальклору з выкарыстаннем традыцыйных зімовых абрадаў, народных песень і танцаў. Маленькія гледачы стануць сведкамі незвычайных прыгод, якія здараюцца на працягу сцэнічнага дзеяння з вядомымі казачнымі персанажамі — Дзедам Марозам, Снягуркай, Вядзьмаркай, Кікімарай, шэрым Воўкам... Асноўныя выканаўцы святочнага спектакля — артысты Дзяржаўнага ансамбля «Харошкі», студэнты эстраднага аддзялення Беларускага універсітэта культуры і вучні дзіцячай харэаграфічнай школы г.Мінска.

Перад пачаткам тэатралізаванага прадстаўлення ў фае філарманічнай залы каля прыгажуні-ёлкі адбудуцца масавыя гульні з дасціпнымі жартамі, песнямі-карагодамі і прызамі. Вядучы праграмы запросіць прыняць у ёй удзел усіх хлопчыкаў і дзяўчынак.

Варта зазначыць, што некалькі святочных прадстаўленняў будуць паказаны на дабрачыннай аснове непасрэдна для дзяцей-сірот і інвалідаў.

Падчас школьных канікулаў 6 студзеня на сцэне сталічнай філармоніі выступіць ансамбль песні і танца «Зорачка» Рэспубліканскага Палаца піянераў і школьнікаў (мастацкі кіраўнік М.Іванова). Гэты ўзорны калектыў, які летась адзначыў свой трыццацігадовы юбілей, дасягнуў значных вынікаў. Падрыхтаваная ім праграма «Навагодні баль» падзелена на дзве поўнасцю самастойныя часткі, насычаныя разнастайным музычна-танцавальным рэпертуарам.

Калі першае аддзяленне ансамбля носіць строга акадэмічны характар і ўсе канцэртныя нумары адлюстроўваюць свецкае музычнае мастацтва канца XVIII — пачатку XIX стагоддзяў, то другое — цалкам заснавана на беларускім фальклорным матэрыяле. Такая кампазіцыйная пабудова канцэрта дазваляе юным выканаўцам усебакова раскрыць свае мастацкія здольнасці перад гледачамі.

Значную цікавасць, на маю думку, павінна выклікаць у меламанаў выступленне 15 студзеня Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад упраўленнем армянскага дырыжора Э.Абрамцумяна. У першую чаргу гэта звязана з выбарам самой праграмы: прапанаваныя маладым маэстра для выканання сімфанічная сюіта «Вясна свяшчэнная» І.Стравінскага і «Кармэн-сюіта» Бізэ-Шчадрына даўно ўжо не гучалі ў Мінску. І, напэўна, знойдзецца нямала прыхільнікаў такога цудоўнага аркестравага рэпертуару.

Асаблівай увагі заслугоўвае таксама канцэртная афіша камернай залы на Залатой горцы. 5 студзеня тут адбудзецца аўтарскі вечар беларускага кампазітара Віктара Капыцько, прысвечаны 20-годдзю яго творчай дзейнасці. Ён шмат працуе ў самых розных музычных жанрах. Аднак на гэты раз яго творчасць будзе прадстаўлена ў канцэрце камернай музыкай.

Дзяржаўны камерны хор Беларусі пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь І.Мацюхова выканае новую кантату В.Капыцько «Знакі» на містычна-філасофскія вершы М.Рэрыха, прысвечаную вядомаму дырыжору амерыканскага хору М.Качанаву (дарэчы, два гады назад ён упершыню ажыццявіў паказ гэтага твора ў Нью-Йорку), а таксама два песнапенні, напісаныя кампазітарам у сувязі з гвалтоўным забойствам протаіерэя айца Аляксандра Меня.

Некаторыя камерна-інструментальныя і вакальныя творы В.Капыцько прагучаць на аўтарскім вечары ў выкананні ансамбля салістаў «Класік-Авангард» (мастацкі кіраўнік Ул.Байдаў), вядомага спевака В.Скарабагатава і піяністкі Г.Каржанеўскай.

«Каляды ў Беларускай капэле» — 10 студзеня пад такой назвай пройдзе цікавы канцэрт мужчынскага камернага хору «Унія» (мастацкі кіраўнік К.Насаеў). У яго праграме — традыцыйныя калядныя песні. На гэтым жа вечары музыкант С.Багданаў пазнаёміць слухачоў з кампазіцыяй, напісанай для электронных інструментаў, што само па сабе выклікае пэўную цікавасць.

У першай палове студзеня ў камернай зале філармоніі можна будзе паслухаць канцэрт ансамбля скрыпачоў Мінскага музычнага вучылішча імя М.Глінкі (7 студзеня); пабываць на выступленні вядомага арганіста К.Шарава, які выканае нямецкую музыку барока (12 студзеня); сустрэцца на вечары вакальнай музыкі з салістамі Белдзяржфілармоніі А.Казанцавай і В.Чэрвоным (13 студзеня).

## ДЫСПЕТЧАРСКІ ПУЛЬТ

### ТРАГЕДЫІ НА ЧЫГУНЦЫ

Кожны раз, калі чуеш пра недарэчную смерць таго ці іншага чалавека, задаешся пытаннем: ну няўжо ён не ведаў, што пэўныя паводзіны ў пэўным месцы і ў пэўны час пагражаюць небяспекай для жыцця? І прыходзіш да высновы: ведаў, але ўцяміць не ўцяміў.

Гэтую думку пацвярджае і старшы інспектар прафілактыкі сталічнага аддзела ўнутраных спраў на чыгунцы Мікалай Марчук.

Ён паведаміў, што на падведамаснай аддзелу чыгунцы за апошні час адбыліся дзве трагедыі з чалавечымі ахвярамі.

Так, 19 снежня позна вечарам па рэйках у раёне прыпыначнага пункта «Вендэж» «прагульваўся» 56-гадовы жыхар Мар'інай Горкі І.Усцімчык. Пасажырскі цягнік № 668 «Гродна — Гомель» затармазіць не змог. У выніку Усцімчык загінуў.

А вечарам 21 снежня на станцыі «Беларусь» 51-гадовая жыхарка Заслаўя Н.Хрыпашкава, знаходзячыся на чыгуначным палатне, таксама не пачула набліжэння грузавога цягніка. Зыход смяротны.

Не, гэтыя людзі не шукалі смерці. Але смерць сама знаходзіць неабачлівых. І пра гэта трэба памятаць кожнаму.

### «ХУТКАЯ» ЕДЗЕ НА ВЫКЛІК

Па звестках, якія паступілі ад галоўнага ўрача гарадской станцыі хуткай медыцынскай дапамогі Віталя Ціцішына, на мінулым тыдні мінчукі і госці сталіцы звярталіся да «хуткай» 9878 разоў, што на 606 выклікаў менш, чым у папярэднюю сядміцу.

На жаль, дапамога «хуткіх» медыкаў спатрэбілася не толькі старым, нямоглым і тэмпературным хворым. Па-ранейшаму колькасць выпадкаў і здарэнняў, у якіх калечацца людзі, не змяншаецца.

Варта згадаць некаторыя з такіх здарэнняў.

Так, 19 снежня позна вечарам алкагольны сабантуй адбываўся ў інтэрнаце, што па вул.Пугачоўскай, 1. Што здарылася ў ходзе яе — высветліць міліцыя. Але факт застаецца фактам: адзін з п'яных, 24-гадовы мужчына, вываліўся з 3-га паверха будынка. З чэрапна-мазгавой траўмай ён трапіў у бальніцу.

20 снежня таксама позна вечарам — аналагічны выпадак. На гэты раз з 5-га паверха па вуліцы Філімонава, 13 упаў 22-гадовы юнак. Медыкі канстатавалі пералом пазванка, шок, траўмы груднай клеткі і жывата.

Ноччу таго ж чысла на вуліцы Беларускай «хуткая» падабрала 35-гадовую жанчыну з агульным пераахаладжэннем. Яна знаходзілася ў стане алкагольнага ап'янення.

21 снежня надвячоркам у адной з кватэр дома № 40 па вуліцы Кахоўскай адбыўся выбух газавага балона, якім зачапіла 3 суседнія кватэры. Пацярпелі 4 жыхары. У іх шматлікія пераломы і траўмы рознай ступені цяжкасці.

22 снежня раніцай на будоўлі ў Шабанах бетоннай плітой прыціснула двух рабочых. У бальніцу яны дастаўлены з пераломамі бёдраў і чэрапна-мазгавымі траўмамі.

Тады ж на вуліцы Ілімскай, 58 з вышыні ўпаў 44-гадовы мужчына, у яго пералом рэбраў.

23 снежня вечарам на праспекце Пушкіна нешта натварыў 20-гадовы юнак. Пры ўцёках міліцыянер адкрыў па ім агонь з табельнай зброі. У выніку са шматлікімі кулявымі раненнямі юнак трапіў у бальніцу.

24 снежня позна вечарам у цяжкім алкагольным атручэнні была пакладзена ў бальніцу невядомая жанчына, якую знайшлі на вуліцы Ясеніна.

25 снежня вечарам на пероне станцыі метро «Інстытут культуры» быў падабраны 25-гадовы мужчына. У яго цяжкая чэрапна-мазгавая траўма, ён таксама знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення.

На мінулым тыдні медыкі «хуткай» зарэгістравалі па сталіцы 61 смяротны выпадак. Гэта на 10 смерцяў менш, чым за папярэднюю сядміцу.

Віктар СТРЫЖАК, «ДВ».

